Жыві, Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

№ 171 (184) 3 верасня 1991 г. Аўторак.

ВЫДАЕЦЦА З КАСТРЫЧНІКА 1990 ГОДА НА БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАХ.

Кошт: у розніцу — 10 кап. падпісны — 3 кап.

## Заявление Президента СССР и высших руководителей союзных республик

В результате государственного переворота, совершенного 19 — 21 августа сего года, был сорван процесс формирования новых союзных отношений между суверенными государствами, что поставило страну на грань катастрофы.

Сложившаяся в стране после путча ситуация, если она выйдет из-под контроля, может привести к непредсказуемым последствиям внутри страны и в отношениях с зарубежными государствами.

Мы констатируем, что срыв заговора, победа демократических сил нанесли серьезный удар по реакционным силам и по всему тому, что сдерживало процесс демократических преобразований, тем самым создан исторический шанс для ускорения коренных преобразований обновления страны.

В этих условиях законно избранные высшие руководители страны в лице Президента СССР, президентов и председателей Верховных Советов республик в целях недопущения дальнейшего распада структур власти и до создания новой политической, государственной системы отношений между республиками, формирования межреспубликанских (союзных) структур власти на переходный период (до принятия новой Конституции и проведения на ее основе выборов новых органов власти) согласились с необходимостью:

1. Подготовить и подписать всеми желающими республиками Договор о Союзе суверенных государств, в котором каждая из них сможет самостоятельно определить формы своего участия в Союзе.

2. Обратиться ко всем республикам независимо от декларируемого ими статуса с предложением безотлагательно заключить экономический союз с целью взаимодействия в рамках единого свободного экономического пространства и для нормального функционирования народного хозяйства, жизнеобеспечения населения, ускоренного проведения радикальных экономических реформ.

3. В условиях переходного периода создать:

(Окончание на 3-й стр.).

## Факты Аргументы Комментарии Суждения

### Митинговый пресс

ВИТЕБСК. **Обвинения в адрес руководителей разного ранга, не выступивших против государственного переворота, а скорее поддержавших его, то и дело звучали на митинге, который состоялся в минувшее воскресенье на городском стадионе.**

Требовали наказать начальника УВД Алексея Клещенка, зам. начальника УКГБ Виктора Бурака, чьи неосмотрительные интервью в дни путча в местной прессе рассматриваются как одобрение действий хунты.

Вспомнили также собравшиеся и о давно наболевшем — плохой работе городского транспорта, высоких ценах и слабом товарном снабжении.

### Департизация? Так точно!

На заседании военного совета БВО генерал-полковник А. Костенко объявил о своем выходе из бюро ЦК КПБ и КПСС. Департизация в округе идет полным ходом. Настроение личного состава бодрое. Если кто и переживает, то разве что бывшие политработники.

### Просто так коллекционирует?

**Народ, похоже, усиленно вооружается.**

В квартире учителя одной из средних школ Бешенковичского района милицией были изъяты пулемет Дегтярева, малокалиберная винтовка, около двухсот патронов, тротиловые шашки, армейские приборы ночного видения и акваланг. Зачем понадобился школьному педагогу такой солидный арсенал — выясняется.

### На волосок от смерти

ЧАУСЫ. **Тринадцатилетнюю Дину А. вытаскивали из битумного хранилища почти час.**

Вязкая смоляная трясина засосала девочку почти по горло, когда подбежали несколько мужчин, случайно проходивших рядом.

Возле местного асфальтового завода — несколько таких битумных ям. Они ничем не огорожены, и детвора частенько возле них гуляет. На сей раз между ребятами возник спор, кто сможет перепрыгнуть «чертов» круг. К сожалению, прыжок едва не стоил Дине жизни. После этого администрация завода, похоже, решилась оградить опасные хранилища.

### В банк за независимостью

Белорусский коммерческий банк развития легкой промышленности «Дукат» приобрел у Национального банка БССР на 5 млн. руб. облигаций белорусского республиканского внутреннего 5-процентного займа.

Операция проведена в поддержку провозглашения независимости республики и сокращения дефицита республиканского бюджета.

### Мы сократим МИД. Но союзный

Назначенный на прошлой неделе министром иностранных дел СССР Борис Панкин заявил вчера, что будет следовать в своей деятельности «линии Горбачев—Шеварднадзе.

Он также добавил, что численность союзного МИД будет сокращена, а значительная часть его полномочий перейдет республикам.

Новый министр подчеркнул, что во время работы послом в Праге он установил хорошие контакты с министрами иностранных дел Белоруссии, России, Украины, которые, несомненно, помогут ему в дальнейшем.

### В двух словах

● Рассмотрев представление союзного КГБ, Президент СССР отменил акты, в соответствии с которыми Калугин О. Д. был лишен государственных наград и воинского звания генерал-майора запаса.

● Как заявил на пресс-конференции Председатель Верховного Совета Латвии А. Горбунов, на этой неделе ожидается признание независимости республики со стороны США. Латвию уже признали около 30 государств.

● Премьер-министр Великобритании Дж. Мейджор провел переговоры с М. Горбачевым о возможной помощи стран Запада Советскому Союзу.

● С сегодняшнего дня выпускаются в обращение монеты, посвященные 500-летию единого русского государства: серебряные — достоинством 3 рубля, золотые — 100 и 50 рублей, платиновые — 150 и палладиевые — достоинством 25 рублей.

### Как в блокаду

ГЛАЗОВ. **Новый дефицит появился в этом городе Удмуртии.**

Больше месяца тут напряженная обстановка с торговлей хлебом. Очереди выстраиваются уже с семи утра. Люди стоят в них по три-четыре часа. В августе на каждого жителя приходилось в день по 250—300 граммов хлеба.




Рисунок Олега ПОПОВА.

### Вперед, к старому!

**В Ленинграде состоялось заседание президиума облсовета.**

Решено обратиться к внеочередной сессии Ленсовета с просьбой о пересмотре предыдущего решения по поводу переноса на два года переименования города.

Городу возвращен герб, утвержденный еще в 1790 году. Предложено также вернуть исторические названия улицам, переулкам и площадям, носящим сейчас имена революционных деятелей (имеется в виду революция 1917 года).

### Голос предков зовущий...

**Министерством юстиции РСФСР в Нижнем Новгороде зарегистрирована областная языческая община.**

Она ставит целью возрождение традиций народной языческой культуры, гармонизацию взаимоотношений человека и природы, а также пропаганду веротерпимости.

### Чекисты просят: не надо репрессий

УФА. **Глава местного КГБ Владимир Наумов заявил, что не собирается исполнять приказ о рассекречивании архивов Комитета госбезопасности.**

По его словам, чекисты не желают, чтобы пострадали люди, отдавшие свою судьбу в их руки. На брифинге сотрудники КГБ призвали сограждан не преследовать тех, кто не сумел в дни путча занять гражданскую позицию.

### Борьба с тенями продолжается

ИЖЕВСК. **Тень Дмитрия Устинова в очередной раз потревожена.**

Президиум горсовета поручил специально созданной комиссии рассмотреть вопрос о переименовании городского района, носящего его имя. Президиум также обратился с предложением изъять имя маршала из титула производственного объединения «Ижмаш».

### Незамутимы, глубоки...

МОЗЫРЬ. **Работники лесного хозяйства и охраны природы провели в районе обследование родников с питьевой водой.**

На сегодняшний день их известно около двух десятков. Незамутимыми источниками пользуются после благоустройства в деревнях Большие Зимовищи, Стригалов, а также в некоторых селах Криничанского и Осовецкого сельсоветов. Обследование природных источников пополнит сведения о запасах питьевой воды.

**Выпуск подготовлен по сообщениям Виктора Лещенко, Сергея Буткевича, Анатолия Готовчица, Николая Комлева, Виктора Хорошко, агентств «Инфо-нова», «Урал-акцепт» и ТАСС.**

**«Горячий» телефон 32-24-02 работает ежедневно с 9 до 11 часов.**

---

У калідорах улады

*Станіслаў ШУШКЕВІЧ:*

## «Мяне адрознівае ад Гарбачова адно — я чалавек рашучы»

**АД АЎТАРА.**

**На працягу апошніх гадоў журналісцкі лёс пастаянна зводзіў мяне са Станіславам Станіслававічам Шушкевічам. З той самай пары, калі Станіслаў Станіслававіч прамяняў цішыню кабінета вучонага на заўсёды неспакойную, заўсёды турботную палітыку. Ён літаральна ўварваўся ў яе ў канцы 80-х гадоў: шматгалосыя мітынгі на плошчах, бурлівыя выбарчыя кампаніі, узлёт асабістай папулярнасці... І ўвесь гэты час мне даводзілася назіраць яго ў дзеянні. Нашых сустрэч, інтэрв'ю ў тэлестудыі і на старонках друку цяжка і злічыць. На стану ўтойваць, я не заўсёды падзяляў яго погляды і пазіцыі, да пэўных яго палітычных крокаў ставіўся адназначна крытычна, і ўсё ж што не пераставала прыцягваць у ім, дык гэта яго адкрытасць і даступнасць. Ён заўсёды быў адкрыты для дыялогу, для высвятлення пазіцый. Не змяніла яго ў гэтым і высокая пасада.**

**— Станіслаў Станіслававіч, па выніках апошняй сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі Вы сталі першай службовай асобай у рэспубліцы. Як змяніўся лад Вашага жыцця і працы?**

— Адразу хацеў бы ўдакладніць, што з'яўляюся выконваючым абавязкі Старшыні Вярхоўнага Савета БССР і працягваю з'яўляцца, калі гаварыць аб маёй пасадзе, першым намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета. Як у арміі: калі няма камандзіра, старэйшы па званню (пасадзе) бярэ на сябе камандаванне. А ўвогуле няма падстаў гаварыць пра нейкія катэгарычныя змены ў сітуацыі, бо тыя структуры, якія сфарміраваліся даўно, не мяняюцца вельмі хутка. Нават калі гэтага вельмі хочацца. Адзінае, што змянілася рашуча, дык гэта тое, што цяпер нам даводзіцца працаваць у рэжыме перманентных пасяджэнняў. Дзеля аб'ектыўнасці зазначу, што не ўсе члены Прэзідыума лічаць, што сітуацыя ў нас крытычная. Я ж трымаюся менавіта гэтай думкі і раблю ўсё, каб гэта ўсвядомілі астатнія мае калегі па Прэзідыуму Вярхоўнага Савета. А ў такі цяжкі час мы можам прымаць рашэнні толькі калектыўна. Маланкавыя рашэнні не могуць быць бездакорнымі. Многія спрабуюць іграць на існуючых цяжкасцях, прадставіць нашу работу такім чынам, як быццам бы мы парушаем рашэнні Вярхоўнага Савета ці нават болей, што мы ідзём насуперак настрою людзей. Гэта не так...

**— Апошняя сесія прыняла самыя што ні на ёсць кардынальныя рашэнні. Наколькі яны адлюстроўваюць працэс развіцця палітычнай сітуацыі на Беларусі і ці не з'яўляюцца яны рашэннямі пэўнага палітычнага моманту, спецыфічных абставін? Ці можаце Вы сцвярджаць, што яны носяць неабарачальны характар?**

— Я не лічу, што гэтыя рашэнні належаць моманту. Часам, вы ведаеце, нейкая падзея ці факт вымагаюць ад чалавека зусім інакш пагледзець на ўсю папярэднюю гісторыю ці нават на ўсё сваё жыццё. Сапраўды, можа пакацца парадоксам, што за эканамічную, палітычную самастойнасць Беларусі прагаласавалі тыя дэпутаты, якія яшчэ зусім нядаўна лічылі такі падыход недазваляльным сепаратызмам. Усё ж такі я лічу, што ўсе тыя рашэнні, якія былі прыняты, былі асэнсаванымі рашэннямі. Тут вельмі важна зазначыць — ні адно з іх не зачыняе дзверы да Саюзнага дагавора. Дарога адкрыта, але адкрыта толькі да саюза роўных. У палітычным сэнсе прынятыя на апошняй сесіі рашэнні азначаюць, што мы цвёрдыя прыхільнікі канфедэрацыі.

**— Як адзначаецца цяпер у прэсе, чаго і змаглі дабіцца натхняльнікі і кіраўнікі дзяржаўнага перавароту, дык гэта таго, што працэс падпісання Саюзнага дагавора быў сарваны. Цяпер усё патрэбна пачынаць спачатку, калі ўвогуле такія магчымасці знойдуцца. Якім Вам асабіста бачыцца шлях да новага Саюзнага дагавора і якіх прынцыповых зменаў патрабуе цяпер яго тэкст?**

— Пачну з таго, што неабходна неадкладна падпісаць дагавор аб эканамічным супрацоўніцтве з усімі рэспублікамі і тэрмінова стварыць каардынацыйны міжрэспубліканскі орган па эканамічных сувязях. Назва для яго знойдзецца. Інакш можа адбыцца непапраўнае, інакш наступіць эканамічны хаос, а разам з ім голад і нястача. Што датычыць палітычнага зместу Саюзнага дагавора, дык падыходы да гэтага пытання, мяркую, вызначыць бліжэйшая сесія Вярхоўнага Савета рэспублікі. У любым выпадку нам гэтага пытання не абысці. І я лічу, што цяпер ёсць усе падставы для заключэння дагавора роўных. У апошні час робіцца вельмі шмат заяў наконт таго, як мы павінны аб'ядноўвацца. Прызнаюся, у мяне ёсць шмат пытанняў па апошніх дзеяннях новага кіраўніцтва Расіі. Папершае, зробленыя яе кіраўнікамі заявы, на маю думку, не цалкам адпавядаюць дагаворам, якія падпісала Расія з Казахстанам, Украінай і іншымі рэспублікамі. У наш час, калі навісла рэальная пагроза над Саюзам, палітычным дзеячам такога ўзроўню не шкодзіла б быць бездакорнымі ў фармуліроўках.

(Заканчэнне на 3-й стар.).



---

## УКАЗ

### Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР

**Аб скліканні шостай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР дванаццатага склікання**

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР **пастанаўляе:**

Склікаць шостую сесію Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі дванаццатага склікання 15 кастрычніка 1991 года ў горадзе Мінску.

**Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР С. ШУШКЕВІЧ.**

30 жніўня 1991 г.
гор. Мінск.

## Пастанова Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

**Аб парадку дня шостай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР дванаццатага склікання**

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР **пастанаўляе:**

Унесці на разгляд шостай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР дванаццатага склікання наступныя пытанні:

1. Аб выбарах Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.
2. Аб выбранні Генеральнага пракурора Беларускай ССР.
3. Аб старшыні Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў Беларускай ССР.
4. Аб праекце Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Беларускай ССР.
5. Аб праекце Закона Беларускай ССР «Аб Канстытуцыйным Судзе Беларускай ССР».
6. Аб праекце Закона Беларускай ССР «Аб грамадзянстве Беларускай ССР».
7. Аб праекце Закона Беларускай ССР «Аб выбарах народных дэпутатаў Беларускай ССР».
8. Аб праекце Закона Беларускай ССР «Аб выбарах народных дэпутатаў мясцовых Саветаў народных дэпутатаў Беларускай ССР».
9. Аб праекце Закона Беларускай ССР «Аб сацыяльнай абароне інвалідаў у Беларускай ССР».
10. Аб праекце Закона Беларускай ССР «Аб статусе тэрыторыі, якая падверглася радыеактыўнаму забруджанню».
11. Аб праекце Закона Беларускай ССР «Аб замежных інвестыцыях на тэрыторыі Беларускай ССР».
12. Аб праекце Закона Беларускай ССР «Аб парадку заключэння, выканання і дэнансацыі міжнародных дагавораў Беларускай ССР».
13. Аб праекце Закона Беларускай ССР «Аб набыцці грамадзянамі і юрыдычнымі асобамі аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці (Аб прыватызацыі)».
14. Аб праекце Закона Беларускай ССР «Аб унясенні дапаўненняў і змяненняў у Закон Беларускай ССР «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС».
15. Аб праекце Закона Беларускай ССР «Аб падатках з прадпрыемстваў, аб'яднанняў і арганізацый, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць на тэрыторыі Беларускай ССР».
16. Аб праекце Закона Беларускай ССР «Аб падаходным падатку з грамадзян».
17. Аб праекце Закона Беларускай ССР «Аб відах маёмасці, якая не можа знаходзіцца ва ўласнасці грамадзян».
18. Аб праекце Закона Беларускай ССР «Аб каштоўных паперах і фондавай біржы».
19. Аб праекце Закона Беларускай ССР «Аб таварнай біржы ў Беларускай ССР».
20. Аб праекце пастановы Вярхоўнага Савета Беларускай ССР «Аб увядзенні дадаткова пасады намесніка старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю».
21. Аб праекце Закона Беларускай ССР «Аб пенсіённым забеспячэнні грамадзян у Беларускай ССР».
22. Аб праекце Закона Беларускай ССР «Аб плацяжах за зямлю».
23. Аб праекце Закона Беларускай ССР «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду».
24. Аб праекце Закона Беларускай ССР «Аб унясенні змяненняў у заканадаўчыя акты Беларускай ССР у сувязі з прыняццем Законаў Беларускай ССР «Аб занятасці насельніцтва Беларускай ССР» і «Аб прадпрымальніцтве ў Беларускай ССР».
25. Аб праекце пастановы Вярхоўнага Савета Беларускай ССР «Аб унясенні змяненняў у Палажэнне аб Камісіі пры Вярхоўным Савеце Беларускай ССР па аказанню садзейнічання ў забеспячэнні правоў і інтарэсаў рэабілітаваных і іх сем'яў і ўвекавечанні памяці ахвяр рэпрэсій, якія мелі месца ў перыяд 30—40-х і пачатку 50-х гадоў».
26. Аб праекце пастановы Вярхоўнага Савета Беларускай ССР «Аб размеры адлічэнняў у дзяржаўны фонд садзейнічання занятасці».
27. Аб праекце Закона Беларускай ССР «Аб унясенні змяненняў у Крымінальны кодэкс Беларускай ССР у сувязі з прыняццем Закона Беларускай ССР «Аб прадпрымальніцтве ў Беларускай ССР».
28. Аб назве, Дзяржаўным гербе і Дзяржаўным флагу Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

**Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР С. ШУШКЕВІЧ.**

гор. Мінск 30 жніўня 1991 г.

---

**Вчера в Москве начал работу пятый внеочередной Съезд народных депутатов СССР.**

**Накануне Съезда состоялась встреча Президента СССР с руководителями одиннадцати республик, выработано совместное заявление, обращенное к Съезду, которое и огласил Президент Казахстана Н. А. Назарбаев.**

***

**Возможно, нынешний Съезд народных депутатов СССР будет самым коротким в истории нашего государства, но не последним.**

**Могу пообещать лишь много сенсаций, заявил советским и иностранным корреспондентам, аккредитованным на внеочередном пятом Съезде народных депутатов, руководитель пресс-центра Аркадий Масленников.**

***

**На Съезде выступил представитель Латвии Я. Петерс. Он огласил обращение к Президенту СССР народных депутатов, избранных от Латвии в 1989 году. В нем содержится просьба «без промедления издать президентский указ о признании независимости Латвийской республики — полноправного субъекта международного права до 1940 года».**

Факт

## «Март» начался в августе

**При исполкоме Барановичского городского Совета народных депутатов зарегистрировано общество «Март».**

Его учредителями стали акционерное общество «Ксения» из Вильнюса, народное предприятие «Альбертин» из Слонима, исполком Барановичского горсовета народных депутатов и отдел рабочего снабжения Барановичского отделения Белорусской железной дороги.

Новое общество будет заниматься организацией производства фотообоев, издательско-полиграфической и книготорговой деятельностью.

**Виктор ШУРИН.**
г. Барановичи.

## Мы будзем побач, мы будзем разам

### Беларусь—Украіна: абмен ратыфікацыйнымі граматамі

**Кіеў... Шыкоўны двухпавярховы асабняк, дзе мела адбыцца цырымонія абмену ратыфікацыйнымі граматамі, калісьці яшчэ да рэвалюцыі належаў багатаму цукразаводчыку. Потым ён пераходзіў з рук у рукі правадыроў украінскага пралетарыяту — С. Касіора, М. Хрушчова... Крыштальныя люстры, бляклая медзь каміна, выкладзены арыгінальным малюнкам дубовы паркет, што аддаваў лёгкім скрыпам пад нагамі, — нямыя сведкі гісторыі, якую за народ і ад імя народа рабілі былыя гаспадары гэтага асабняка.**

Цырымонія праходзіла ў блакітнай зале. На ўсё пайшло хвілін пятнаццаць, не болей. Міністры замежных спраў паставілі свае подпісы пад тэкстам, абмяняліся ратыфікацыйнымі граматамі і паціснулі адзін аднаму рукі. Бакалы шампанскага ў азнаменаванне падзеі і здымак на памяць — усё ў адпаведнасці з дыпламатычным пратаколам. Потым надышоў час невялічкай прэс-канферэнцыі. На яе пачатку Пётр Краўчанка і яго ўкраінскі калега Анатоль Зленка выступілі з кароценькімі прамовамі. Міністры былі адзіныя — Дагавор пойдзе на карысць абедзвюм рэспублікам, братэрскія адносіны паміж якімі змацаваны векавой гісторыяй. Гэтая слаўная традыцыя ніколі не перарывалася і ў апошнія гады. Нават адносіны паміж кіраўнікамі знешнепалітычных ведамстваў дзвюх рэспублік носяць надзвычай цёплы, асабісты характар. Міністры працуюць у пастаянным кантакце, чаго патрабуюць і ад сваіх падначаленых.

Выключная блізкасць Украіны і Беларусі прадыктавана яшчэ і нашай агульнай бядой — Чарнобылем, трагічныя наступствы якога можна ліквідаваць толькі агульнымі намаганнямі. І яшчэ адзін аспект міжрэспубліканскіх зносін, які ў апошні час набыў дадатковую вастрыню з-за не заўсёды адказнай і не зусім выверанай пазіцыі кіраўнікоў Расіі, — тэрытарыяльныя пытанні. Дагавор засведчыў, што ні Беларусь, ні Украіна не маюць тэрытарыяльных прэтэнзій адзін да аднаго.

І зноў жа, нібыта згаварыўшыся, міністры падкрэслілі, што на сучасным этапе цэнтр цяжару ўсёй палітычнай дзейнасці перамясціўся ў сферу эканомікі. Мы апынуліся ля апошняй мяжы, за якой эканоміку чакае калапс, а людзей — страшэнная нястача. Трэба спыніць, пакуль не позна, канчатковую дэзінтэграцыю міжрэспубліканскіх эканамічных сувязей. А таму Пётр Краўчанка зазначыў, адказваючы на пытанне аднаго з украінскіх карэспандэнтаў, што Беларусь гатова выступіць у якасці гасціннага гаспадара сустрэчы кіраўнікоў усіх рэспублік, на якой патрэбна будзе падпісаць эканамічнае пагадненне. Ідэя такой сустрэчы на вышэйшым узроўні даўно лунала ў паветры, і кожны тыдзень прамаруджвання з яе правядзеннем нясе ўсё большыя эканамічныя страты. Ужо пасля ўсіх урачыстасцей мне давялося прысутнічаць пры гутарцы нашага міністра з дэпутатамі Вярхоўнага Савета Украіны, здаецца, з Запарожжа. Гаварылі на мове лічбаў — залежнасць рэспублік ад знешніх паставак сыравіны, экспартны патэнцыял, сальда паміж экспартам і імпартам, узровень пра-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

